# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1611) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 29 САКАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.

## КВЕТКА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

Сяргей Лукашук паявіўся наперадзе сцэны. У хвіліннай ціцышы ўзняў дырыжорскія рукі і... ад 150 сэрцаў, са 150 грудзей, з 150 вуснаў, 150 галасамі лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня 87" грымнула песня-гімн беларусаў „Люблю наш край, старонку гэту". Перапоўненая зала Беластоцкай філармоніі, як адзін чалавек, паднялася і стоячы падхапіла песню. А потым была авацыя гэтаму вялікаму каляроваму хору, які на „біс" прасьпяваў адну страфу, як бы даючы завяшчанне слухачам — „І песню родную люблю я".

Расстаемся, але за год зноў сустрэнемся, будзем разам і будзем з песняй. Такімі словамі Валя Ласкевіч, вядучая канцэрт, закончыла яго.

У гэтым годзе першы раз адбыліся два канцэрты лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня-87" і яшчэ не ўсе ахвотныя змаглі купіць білеты.

На першым канцэрце а гадзіне 14 не дапускаліся „бісы". Кожны лаўрэат спяваў адну

(Працяг на стар. 3)



Дуэт з Тыневіч Вялікіх — Валя Леўчук і Ніна Савіцкая спяваюць пра адвечную дылему — ружа і любоў: „ружовая ружа — пазнанне, чырвоная ружа — любоў, жоўтая ружа — то разлука, а бела — абліта слязой".



Від на публіку.

## З ЧЫМ У ПЯЦІГОДКУ

Нядаўна разглядалі мы магчымасці гаспадаркі Беластоцкага ваяводства ў бягучым годзе. Сёння паспрабуем прадставіць яе асноўныя напрамкі ў крыху шырэйшым маштабе. Ваяводская рада нарадовая на сваёй першай у гэтым годзе звычайнай сесіі зацвердзіла гаспадарча-эканамічны план развіцця Беласточчыны ў гадах 1986-1990. З чым ідзём мы ў пяцігодку?

Усё рашаецца людзьмі і на аснове іх адносін да сваіх надзённых і прафесійных абавязкаў. Найперш тады прасочым...

### ...ГУМАННЫ ФАКТАР

Спецыялісты па дэмаграфіі палічылі, што на працягу гэтых пяці гадоў насельніцтва Беластоцкага ваяводства павялічыцца амаль на 25 тысяч чалавек і наблізіцца да роўнага ліку 700 тысяч жыхароў (дакладна — 696.300).

Маркую, што цікава будзе прыгадаць наступны факт: калі ў чэрвені 1976 года ўваходзіў у жыццё ў Польшчы новы тэрытарыяльны падзел, дык у межах цяперашняга Беластоцкага ваяводства апынулася 618 тысяч чалавек. Здзіўляе і трывожыць гэтакая жывучасць нашых землякоў. То ж такім прыростам насельніцтва на працягу дзесяці гадоў можна было засяліць занава Бельск, Гайнаўку, Саколку і Сямяцічы ды яшчэ засталося б для іншых меншых пасёлкаў гарадскога тыпу. Адначасова неабходна памятаць, што гэтых звыш 78 тысяч новых жыхароў Беласточчыны трэба было пракарміць і абяспечыць жыллём. Каб пракарміць, найперш неабходна вырасціць і выгадаваць прадукты. А база на тое ў нас не толькі за гэты час не павялічвалася, але наадварот — зямлі, занятай пад пасевы і сенажаці ды належна загаспадаранай, пастаянна ўбывае. Дзяржаўны фонд зямлі да 1990 года павялічыцца да неймаверных памераў 35 тысяч гектараў. Вёскі нашы ўсё яшчэ будуць пусцець. Аж на 15 тысяч (з лішнім) паменшыцца вясковае насельніцтва Беласточчыны да 1990 г., а ў гэты час на 40 тысяч чалавек павялічыцца гарадское. Значыць, у гэтай пяцігодцы прыбудзе нам два гарады, прыблізна такія, як Гайнаўка і Саколка разам узятыя.

(Працяг на стар. 4)

ШЧЫРА ВІТАЕМ ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ!

 




## АБ СВАБОДНЫМ ПРЫМУСЕ

Слухаў я нядаўна па радыё перадачу, прысвечаную ёгам. Выказваліся людзі розных узростаў. Адны з іх мелі па 16-17 гадоў, другія — па восемдзесят. Ва ўсіх выказваннях гучэў адзін матыў. Усе гаварылі, што разам з эгістычнай сузіральнасцю і гімнастыкай паявілася ў іх ахвота да жыцця, пачуццё гармоніі і ладу, аптымізм і вера, адчуванне ўнутранага радаснага святла. Зніклі з іх характару: прыгнечанасць, няўпэўненасць, боязь, зайздрасць, прагнасць, эгаізм.

Нават калі ў гэтых ацэнках былі элементы суб'ектыўнага перабольшвання, трэба моцна цешыцца, калі чалавек заўважае ў сабе палепшанае самаадчуванне і ведае, якія крыніцы гэтага палепшанага стану.

Вядомы беларускі дзеяч Мар'ян Пецюкевіч апавядаў мне калісьці, што ён, седзячы ў лагеры, сутыкаўся з рознымі людзьмі. Многія з іх, нягледзячы на сваю высокую адукацыю, званні, ва ўмовах лагернага побыту маральна дэградаваліся: кралі, даносілі на сваіх сяброў, ілгалі. А былі такія, асабліва члены рэлігійных сектаў, якія захавалі выключную стойкасць, вернасць сваім ідэалам. Нягледзячы на страшэнныя варункі, яны не толькі не выракаліся сваіх прынцыпаў, але стараліся ў выключна неспрыяльных умовах прапаведваць тыя ідэалы, за якія былі пасаджаны ў лагер. Аб іх таксама можна сказаць, што знайшлі яны ўнутранае святло, якое памагала ім жыць гармаиійна і бачыць далёка навокал сябе.

Многія маралізатары свету на працягу ўсёй гісторыі існавання чалавецтва, марылі аб удасканаленні чалавека і дзеля гэтага прапанавалі розныя спосабы і рэцэпты. Адным з такіх маралізатараў быў, несумненна, вялікі рускі пісьменнік Леў Талстой, які, абапіраючыся на навуках Бібліі, але адкідваючы афіцыйную праваслаўную царкву, у якой быў схільны бачыць правы разнароднага зла, пашыраў ідэю маральнага самадасканалення. Калі глядзець на паводзіны Талстога тэарэтычна, дык здаецца, што ён меў поўнасцю рацыю і што прапанаваныя ім спосабы дасканалення чалавека вялі да дасканалага грамадства. Калі, аднак, глянуць на яго жыццё практычна, дык убачым, што не толькі ў шырокім грамадскім аспекце, але нават у аспекце ўласнага сямейнага жыцця, не ўдалося яму дабіцца ні гармоніі, ні тым болей — дасканаласці. Яго ўцёкі ад уласнай сям'і і з уласнага дому ў больш чым васьмідзесяцігадовым узросце быў доказам не трыумфу, але паражэння яго філасофіі. Талстой, уцякаючы з Яснай Паляны, намерваўся прыстуціць да нейкай секты, якая здавалася яму ўзорам ідэальных грамадскіх адносін. Аднак нікуды ён не даехаў, да нікога не далучыўся, бо па дарозе памёр. Са сказанага, аднак, не вынікае, што пошукі Талстога, яго імкненне да самадасканалення былі пазбаўлены сэнсу. Наадварот, глядзячы на сучасны свет, на выразныя няўдачы ўсіх партый, рэлігій, устаноў, якія ж таксама імкнуцца да ўдасканалення чалавека і грамадства, зразумела, як быццам вяртаемся да ідэі Талстога, які гаварыў, што ніхто без нашай актыўнай волі і ахвоты нас не зменіць і не ўдасканаліць. Праўдападобна сказанае не адносіцца да дзяцей, у выпадку якіх такія фактары як: школа, кніга, прыклад старэйшых значаць вельмі многа. Аднак сфармаваны,

(Працяг на стар. 7)




## ДЫСЦЫПЛІНА І ПРАВАПАРАДАК

На пасяджэнні Бюро ЦК Кампартыі Беларусі 25 лютага разгледжаны меры па выкананню пастановы ЦК КПСС „Аб далейшым умацаванні сацыялістычнай законнасці і правапарадку, узмацненні аховы правоў і законных інтарэсаў грамадзян". Адзначана, што партыйныя, савецкія, гаспадарчыя і праваахоўныя органы, працоўныя калектывы, грамадскія арганізацыі рэспублікі некалькі актывізавалі работу па забеспячэнню захаванасці сацыялістычнай уласнасці, перааддаленню п'янства і алкагалізму, выкараненню непрацоўных даходаў і іншых правапарушэнняў. Разам з тым у сваёй практычнай дзейнасці дзяржаўныя і гаспадарчыя органы нярэдка дапускаюць сур'ёзныя адхіленні ад прававых норм, асабліва пры вырашэнні працоўных спрэчак, размеркаванні жылля, прымяненні адміністрацыйных санкцый. Партыйныя камітэты і арганізацыі недастаткова кантралююць і слаба каардынуюць работу дзяржаўных органаў і грамадскасці па ўмацаванню дысцыпліны і правапарадку.

## СТАЛА ЖЫТНІЦАЙ БАЛОТА

Закончана будаўніцтва самай буйной на Палессі асушальна-ўвільгатняльнай сістэмы — польдэра „Казацкі канал". Меліяратары трэста „Брэствадбуд" перадалі новаму саўгасу „Днепрабугскі" ў пастаянную эксплуатацыю каля шасці тысяч гектараў урадлівых зямель. Адначасова праведзена 130 кіламетраў дарог. Узведзен комплекс жывёлагадоўчых і гаспадарчых памяшканняў, разлічаны на васемсот кароў, гадоўлю і алкорм амаль шасці тысяч галоў буйнай рагатай жывёлы. Гаспадарка штогод будзе пастаўляць суседзям паўтары тысячы племянных першацёлак для абнаўлення статка малочнатаварных ферм. Гэта дазволіць хутка акупіць затраты на будаўніцтва. „Днепрабугскі" — дваццаты саўгас, здадзены ў эксплуатацыю меліяратарамі Галоўпалессеводбуда.

## БУДУЕЦЦА „АЎРОРА"

На перакрыжаванні праспектаў Пушкіна і Прытыцкага беларускай сталіцы будаўнікі ўзводзяць новы кінатэатр, які ў комплексе з высотнай гасцініцай стане адной з архітэктурных славутасцей Мінска. У контурах будучага збудавання выразна выступаюць рысы класічнай архітэктуры мінулага, якія арганічна спалучаюцца з сучаснымі формамі. Арыгінальнасць планіровачнаму вырашэнню надае размяшчэнне на розных узроўнях трох глядзельных залаў (на 200, 300, 500 месц), двух летніх зялёных фае. Карысная плошча дае шырокія магчымасці не толькі праводзіць паказ кінафільмаў, але і арганізоўваць разнастайныя культурна-масавыя мерапрыемствы. Увод аб'екта запланаваны на чацверты квартал бягучага года. Удзельнікі конкурсу, праведзенага сярод грамадскасці, далі кінатэатру сімвалічную назву — „Аўрора".

## У ГРОДНА 400 ГАДОЎ НАЗАД

Чалавечае сэрца на фоне гродзенскага замка адлюстраваў скульптар Уладзімір Кіслы на памятным медалі, які адразу ж зацікавіў калекцыянераў-фалерыстаў. Яго тэкст паведамляе аб тым, што іменна тут 400 гадоў назад упершыню на тэрыторыі краіны адбылося навукова-анатамічнае даследаванне. Гэтай жа падзеі прысвечана экспазіцыя, якая адкрылася ў рэспубліканскім музеі атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродна.

## БАБРУЙСКІЯ ЛАСУНКІ

Прадукцыя аднаго са старэйшых прадпрыемстваў Бабруйска-кандытарскай фабрыкі „Чырвоны харчавік" пастаянна расшыраецца. Такія навінкі, як ірысы „Магнолія" і „Янтарны", мармелад „Маргарытка", і іншыя вырабы ўжо высока ацанілі пакупнікі. Сёлета кандытары асвоіць выпуск дражэ „Жок", „Рабінушка", „Лясны арэх". Цяпер вядзецца рэканструкцыя прадпрыемства. Пасля яго заканчэння асартымент салодкай прадукцыі расшырыцца яшчэ больш, павялічыцца яе выпуск.

## СПОРТ

■ На зімовым чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы, які прайшоў у французскім горадзе Льевене, паспяхова выступіла мінчанка Наталля Дзмітрачэнка. Яна перамагла ў спартыўнай хадзьбе на 3000 метраў з часам 12 мінут 57,59 секунды. ■ Мінчанка Алена Марфель і масквіч Уладзімір Яшэў перамаглі ў першынстве краіны ў складаным практыкаванні „Вялікі круг", страляючы з чатырох дыстанцый.




## ТУРЭМНЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ

Па вуліцах нью-йоркскай ускраіны, выццём сірэны палохаючы прахожых, прамчаліся паліцэйскія машыны. Уварваўшыся ў адзін з дамоў, паліцэйскія выцягнулі адтуль мужчыну, надзелі яму наручнікі і адвялі ў бліжэйшую турму. Гэта быў асуджаны кішэннік-рэцыдывіст, які адбываў тэрмін пакарання не за кратамі, а... дома. Мясцовая турма перапоўнена. Акрамя таго, утрыманне аднаго зняволенага абыходзіцца падаткаплацельшчыкам прыкладна ў 30 тысяч долараў у год. Існавала дагаворанасць аб „экспарце" злачынцаў у штат Нью-Мексіка. Іх адпраўлялі туды для адбывання тэрміну, прыплачваючы штату адпаведную суму за ўтрыманне прысланых зняволеных. Аднак ці то асуджаных стала вельмі многа, ці то паўднёвы штат стаў патрабаваць празмерную суму, у турэмным упраўленні сталі ліхаманкава прыдумваць новыя спосабы зняволення. Тады і прыйшла камусьці ў галаву думка замяніць турму дамашнім арыштам. Няхай сам грабежнік, зладзюга ці насільнік зробіць сабе краты на вокнах, няхай сам сябе корміць, апранае і сцеражэ. А для кантролю прыдумалі невялікі радыёперадатчык, які мацуецца да нагі асуджанага і рэгулярна, праз пэўныя прамежкі часу, паведамляе камп'ютэру турэмнага ўпраўлення аб месцазнаходжанні зняволенага. Ён і выдаў 25-гадовага злодзея, які выпрашыў выйсці з дома і наведаць сяброўку. За гэта яму падоўжылі тэрмін на тры месяцы, і цяпер яму прыйдзецца „адседжвацца" не ў сямейным крузе, а ў сапраўднай турме. Аўтары турэмнага эксперыменту запэўніваюць, што дамашні арышт, нягледзячы на дарагую электронную апаратуру праверкі, абыдзецца значна танней, чым будаўніцтва новай турмы і ўтрыманне арміі наглядчыкаў. Муніцыпалітэт Нью-Йорка зусім не ў захапленні ад эксперыменту: перспектыва жыць па-суседску з якім-небудзь пакінутым на „самавыхаванне" рэцыдывістам наўрад ці прыйдзецца да спадобы нью-йоркцам. Але эксперымент тым не менш працягваецца, таму што гарадскія турмы перапоўнены. У самым вялікім папраўчым комплексе Нью-Йорка з-за перагружанасці камер пастаянна ўспыхваюць беспарадкі. Патрулі іншы раз свядома закрываюць вочы, застаўшы гандляроў наркотыкамі на месцы злачынства, — арыштаваных няма куды падзець. А нядаўна ў Нью-Йорку аб'яўлена аб стварэнні „плывучых турмаў". Для іх плануюць выкарыстаць тры спісаныя паромы. Калісьці, курсіруючы па свайму маршруту, паромы кожны раз праплывалі міма статуі Свабоды. Не выключана, што і новыя пасажыры змогуць любавацца скрозь краты гэтым сімвалам амерыканскай дэмакратыі. (АДН)



 

# КВЕТКА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

(Праця са стар. 1)

толькі песню, а калі нават публіка настойвала, на „біс“ паўтаралася толькі апошняя страфа. Адзін толькі мужчынскі калектыў з Рыбалаў заспяваў поўнасцю сваю баладу пра пакуты Райска, якая канчаецца словамі: „ніколі больш райскай чорнай хмары“. Добра, што заспявалі гэтую песню на словы свайго ўласнага аўтара Мікалая Ігнацюка, бо песню павінен ведаць і пачуць кожны.



У новых, кампазіцыйна вельмі цікавых уборах (вядучы колер чорны) выступілі „Дзявочыя ноткі“ з Бельска, дасканала згарманізаваная група.

Другі канцэрт распачаўся а гадзіне 17 і тут слухачы маглі поўнасцю выказваць свае пажаданні. І „бісам“ не было канца. Гэты канцэрт працягваўся чатыры гадзіны.



Дашы выступілі ў новых строях, як заўсёды спеўна і добра.

Вывад агульны такі, што абодва канцэрты былі багатыя і даўно сцэна Беластоцкай філармоніі не прымала такога вялікага калектыву, такіх разнастайных песень і выканаўцаў, такога багацця строяў, такіх розных стыляў і аранжыровак — ад фальклорных спеваў да „моцнага ўдару“. А між імі былі вельмі цікавыя наватарскія выкананні: сола ў суправаджэнні змешанай групы (Аля Дубец), сучасная аранжыроўка групы Душпастырства праваслаўнай моладзі, спяванне на музычнай аркестравай падкладцы з рэпрадуктара (вельмі моднае ў апошні час), спяванне ўперамешку з ігрой на скрыпцы ці з ігрой на акардэоне („Чарамшына“), удзел класічнай гітары (майстэрства Багдана Пуры), удзел народнай скрыпкі ў руках Пятра Юшкевіча са Збуча, які іграе ў калектыве „Дубіны“, ці ўрэшце ўвядзенне „Васілёчкамі“ вельмі старых спосабаў акампаніяменту: ігранне на касе і на свістку, (непаўторнае проста наследаванне радаснага спеву птушак). А ўсё гэта злучыць можна словамі песні аднаго з калектываў: „Песні нашы, песні, як вас не любіць?!“

Нават вельмі патрабавальную камісію запалоніў узровень, багацце і разнастайнасць сёлетняга конкурсу. Яна з 56 салістаў, дуэтаў і калектываў, дапушчэных раённымі камісіямі да цэнтральнага агляду, з іх аж 31 вызначыла ў групу лаўрэатаў. Такога яшчэ не было! Але гэта паказвае на моц беларускай песні, на яе велізарную творчую ролю ў развіцці культуры Беласточчыны, у абуджанні і яднанні беларусаў пад сваім пераможным сцягам. Як жыццядайны дождж, прайшла беларуская песня ў вялікім горадзе Беластоку, вызначаючы галоўны пульс культурнага жыцця горада ў гэтыя два дні (ці толькі?). Не было ў горадзе ціха ў гэтыя дні. Была беларуская песня, былі яе выканаўцы ў сваіх народных беларускіх уборах, было велізарнае і не поўнасцю заспакоенае зацікаўленне людзей.

Рэпертуар. Цікава, што вялікую частку рэпертуару склалі патрыятычныя песні. Гэты факт вельмі цешыць. Надта многа было песень пра радзіму, родны край, сваю старонку, родную прыроду, нашы гістарычныя мясцовасці і любоў да ўсяго свайго. Называліся па імёнах Белавежа і Супрасль, Нарва і Нёман, родныя лясы і палі. І другая рэч — небывалая: у канцэрце лаўрэатаў (так, зрэшты, як і ў цэнтральным аглядзе) не паўтараліся песні. Гэта проста несамавіта пры такой масавасці ўдзельнікаў конкурсу з усяе Беласточчыны, з далёкіх ад сябе мясцовасцей! Чалавек гатовы паверыць у нейкую містычную істоту . у нейкага бога беларускай песні, які з вышыні кіруе і каардынуе гэтым вялікім і ўсё больш растучым у колькасць і ў якасць беларускім вакальна-музычным рухам. Але гаворачы з зямлі — тут нізкім паклонам трэба пакланіцца перад усімі тымі, хто больш адукавана, ці менш адукавана працуе з песняй. Сардэчнае прызнанне і падзяка вам — інструктары, музычныя кіраўнікі, гармaністы, музыканты і дырыжоры — усе, хто па нотах, ці без нотаў, перакладаеце песню на галасы ахвярных і верных яе выканаўцаў.

Таксама самае гарачае прызнанне і падзяка вам, жанчыны і мужчыны, старыя і маладыя, хто, не маючы доступу да якой-небудзь інструктарскай дапамогі, самі вывучаеце спевы на галасы і самі без ніякага музычнага кіраўніцтва спяваеце нашы родныя песні. Вы — корань іх! Вы — корань таго магутнага дрэва, якое вось такое здаровае і такое прыгожае вырасла нам на славу. І працягвае расці.

Да вас звяртаемся, народныя ўмельцы, калектывы без кіраўнікоў, самародныя песняры з Хільмонаў, Дашоў і Тымянкі, Лабрывады і Агароднічкаў, Арэшкава, Міклашэва і вёскі Чаромха, Навасадаў, Старога Корніна, Кнарыдаў і Меляшкоў, Паўлаў, Семяноўкі і Агароднікаў Мікуліч, Вулькі Тэрахоўскай і ўсіх іншых мясцовасцяў — не адступайце ў гэтай сваёй працы ні на крок! Тое, што вы робіце, — гэта вялікае народнае дабро і ніколі людзі не перастануць слухаць з вялікай радасцю вашыя задушэўныя песні.

Народныя і самародныя калектывы вырастаюць у нас проста, як грыбы пасля цёплага дажджу. Значыць гэта, што адвечныя пачаткі не памерлі ў сэрцах людзей і патрэба спявання жыве, як натуральная прыроджаная з'ява нашага народа. З яе родзяцца калектывы, у большасці жаночыя, якія выцягваюць з сундукоў бабуліны строі, або шыюць і вышываюць самі, і ў кожным новым конкурсе беларускай песні стаюць на раённых аглядах перад суровай камісіяй. Таму што такіх калектываў штораз больш, то некаторыя не трапляюць на цэнтральны агляд. Але сваё паяўленне на культурнай ніве яны дэманструюць, аб'яўляюць сваё існаванне. І свае песні спяваюць, а якраз песня — галоўны герой усяго конкурсу. Няхай тады і распаўсюджваецца кожная беларуская песня і кожны калектыў, які яе спявае.

Гаворачы пра масавасць пdescribed беларускага руху хочацца сказаць, што трэба будзе яго неяк сістэматызаваць, спісаць і расказаць пра кожны калектыў. Гэта праца важная. Трэба будзе дапамагчы богу беларускай песні расказаць пра ўсіх, хто стварае гістарычныя факты на нашай зямлі ў развіцці беларускай культуры на Беласточчыне.

На заканчэнне некалькі слоў іншага характару. Некаторыя выканаўцы крыху „цяжкавата“ ўваходзяць на сцэну. Зразумелы іхні страх, але трэба пачаць вучыцца перамагаць страх ад сцэны. Уваход плаўны, ці энергічны, з усмешкай, раскуе публіку, перад якой вы выступаеце. І гэта важна. Таксама варта помніць, каб, асабліва ў народным стылі спявання, не пачынаць песняў з высокіх тонаў. Народнае спяванне наогул патрабуе ніжэйшых тонаў, тады і словы выразна будуць гучэць і „не зб'ецеся“ з тону. Прыкладам з апошніх канцэртаў „добрай стартавай ноты“ могуць служыць калектыў „Тыневічанкі“ і дуэт з Тыневіч.

Народныя калектывы наогул перад мікрафонамі не спяваюць. Калі аднак мікрафоны ёсць, трэба спяваць у мікрафон. Не трэба спяшацца пачынаць песню, а найперш уставіцца так, каб кожны голас з аднолькава блізкай адлегласці трапляў у мікрафон. Апошнія канцэрты лаўрэатаў, думаю, многаму навучылі нашых артыстаў. Рэжысёр і канцэртмайстар Сяргей Лукашук цікава вырашыў канцавую сцэну, калі то перад публікай павінны былі паявіцца ўсе выканаўцы разам. Ён, менавіта, загадаў, каб выканаўцы пасля свайго выступлення не сыходзілі са сцэны, а сядалі на лавачках тут жа на яе другім плане (у філармоніі там адмысловыя лавачкі). У выніку — у фінале — на сцэне аказаліся ўсе лаўрэаты. Такім чынам самі выканаўцы бачылі, як ішоў канцэрт, як выступалі іх калегі і маглі ацэньваць усё — і ўваход, і спяванне і ставанне. Карысць была і для публікі, якая праз увесь канцэрт магла цешыць вока, назіраючы, як на вялікай сцэне ўсё больш расцвітае кветка беларускай песні.

**Вера Валкавыцкая**

Фота Сяргея Грынявіцкага

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

дарослы чалавек можа змяніць толькі самога сябе. І трэба сказаць, што гэта даецца яму нялёгка. Змаганне з самім сабою, са сваімі звычкамі, заганамі, схільнасцямі — гэта змаганне працяглае і цяжкое.

І яшчэ адно. Вельмі часта ўласныя заганы трактуем, як цноты, а чужыя цноты як заганы. І калі ўрэшце ўдасца нам ідэнтыфікаваць свае заганы, убачыць іх адмоўны характар, дык і гэта ўжо ёсць, калі так можна сказаць, паўперамогі. Цікава, што нават тады, калі мы ў канцы канцоў убачым у сабе нейкую ўласную ваду, вельмі нам прыкра, калі аб гэтай жа вадзе гаворыць нехта іншы. Вельмі часта мы гатовы публічна сказаць аб нейкім сваім недахопе і, зрабіўшы гэта, нам як быццам звальваецца камень з сэрца, але вельмі нам прыкра, калі аб гэтым жа нашым недахопе скажа нехта іншы. Можа яно так і павінна быць, што толькі сам чалавек можа разабрацца і расправіцца з уласнымі заганамі, недахопамі, грахамі.

Вяртаючыся да выступленняў іёгаў, хачу падкрэсліць, што я з вялікай узрушанасцю слухаў кранаючых сэрца іх прызнанні, якія зводзіліся да ўнутранага вызвалення, якое сапраўды павінна быць мэтай кожнага чалавека. Трэба сказаць, што гэта вызваленне можа выяўляцца ў розных формах. Для прыкладу, у Японіі існуе вялікі рух людзей „вітаючых сонца“. Людзі, якія належаць да гэтага руху, штодзённа дабравольна ўстаюць вельмі рана. Робяць гэта з той мэтай, каб прыглядзіцца ўзыходзячаму сонцу. Паўтараюць яны вельмі часта: „Што ты варты, чалавеча, калі ты не ў стане прымусіць сябе да таго, каб устаць рана і прывітаць сонца“. Як не дзіўна, але ўнутранае вызваленне, свабода гэтых людзей праяўляюцца ў прымусе саміх сябе да ранняга ўставання. Значыць, свабода — гэта дабравольны прымус. Аднак — прымус, накінуты нам не іншымі, а толькі выбраны намі.

**Алесь Барскі**

# СЯРОД ДАРОГ




**На фоне каплічкі з журналістам „Нівы“ сфатаграфаваны Надзя Мароз і Васіль Аўласюк.**

На чатыры бакі свету разыходзяцца адсюль дарогі ў Новым Беразове. І тут, на ўзмежку, стаіць гэтая дбайна захаваная каплічка. На Вазнясенне пры ёй збіраецца многа народу і святчэннік служыць малебен. На паступаментах двух крыжоў (адзін бачым на здымку) адчытваем год — 1879.

Людзі з прыхільнасцю вітаюць з пасланцамі „Нівы“ і расказваюць, што пасля фронту ў час апошняй вайны, жыхары вёскі беражліва прынеслі сюды целы загінуўшых савецкіх воінаў і пахавалі іх у агародчыку пры капліцы. Калі ж зрабілі спецыяльны мемарыяльны могільнік савецкім салдатам у Гайнаўцы, астанкі герояў былі перавезены туды. Але памяць аб загінуўшых і месца, дзе знайшлі пасмяротны спачынак, захоўваецца ў памяці новаберазоўскіх людзей кожнага дня і ў дзень Вазнясенскага малебна. **(вл)**

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У ЛОДЗІ

У днях 7-9 красавіка г.г. у канцэртнай зале Музея гісторыі горада Лодзі (вул. Аградовая № 15) адбудзецца кніжны аўкцыён. Ніжэй падаём, паводле аўкцыённага каталога, загалоўкі тых выданняў, якія могуць зацікавіць таксама нашых чытачоў.

Poz. 60 — Gumowski M., Mennica wileńska w XVI i XVII wieku, W-wa 1921. Cena wywoławcza 3 tys. zł. (To samo także pod poz. 557).

Poz. 199 — Jarocki S., Okolice Wilna, Wilno (1925). C.w. 500 zł.

Poz. 215 — Letniska na Ziemiach Wschodnich, W-wa 1938. C.w. 200 zł.

Poz. 229 — Marczak M., Przewodnik po Polesiu, Brześć n.B. 1035. C.w. 700 zł

Poz. 237 — Nowalski S., Monografia miasta Suwałk, Kraków 1880. C.w. 250 zł

Poz. 246 — Ossendowski F.A., Polesie, Poznań (1934). C.w. 4 tys. zł.

Poz. 247 — Ossendowski F.A., Puszcze polskie, Poznań (1936). C.w. 7 tys. zł.

Poz. 293 — W.P.C., Podlasie i ziemia chełmska, Lwów 1914. C.w. 150 zł.

Poz. 296 — Wasilewski L., Kresy wschodnie: Litwa i Białoruś-Podlasie i Chełmszczyzna-Galicya Wschodnia, W-wa — Kraków 1917. C.w. 600 zł.

Poz. 310 — Żmigrodzki J., Nowogródek i okolice, Nowogródek 1031. C.w. 800 zł.

Poz. 361 — Bergerówna J., Księżna Pani na Kocku i Siemiatyczach, Lwów 1936. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 338 — Bruckner A., Starożytna Litwa: ludy i bogi, W-wa 1904. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 417 — Chodynicki K., Kościół prawosławny a Rzeczypospolita Polska. Zarys historyczny. 1370—1632, W-wa 1934. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 478 — Dunin-Kozicki Z., Białystok w XVIII wieku, Wilno (1914?). C.w. 200 zł.

Poz. 566 — Hedemann O., Dzieje Puszczy Białowieskiej w Polsce przedrozbiorowej (w okresie do 1798 roku) W-wa 1939. C.w. 1 tys. zł.

Poz. 661 — (Kognowicki K.), Żywot Lwa Sapiehy, Sanok 1855. C.w. 500 zł

Poz. 663 — Kolankowski L., Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. (1377—1499), W-wa 1930. C.w. 4 tys. zł.

Poz. 758 — Kutrzeba S., Semkowicz W., Akta unji Polski z Litwą: 1385—1791, Kraków 1932. C.w. 4 tys. zł.

Poz. 780 — Lewicki A., Powstanie Świdrygiełły (ustęp z dziejów unii Litwy z Koroną), Kraków 1892. C.w. 2,4 tys. zł.

Poz. 871 — Moroszkin M., Jezuity w Rossii s carstwowanija Ekateriny II i do naszego wriemieni. 2 czasti, S. Petersburg 1870 i 1880. C.w. 1,6 tys. zł.

Poz. 947 — Paczoski J., Lasy Białowieży, Poznań 1930. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 1187 — Świechowski M., Żywioł polski na ziemiach litewskich ze szczególnym uwzględnieniem obszarów okupowanych przez mocarstwa centralne (stosunki ludnościowe i własność ziemska), Zakopane 1917. C.w. 500 zł.

Poz. 1193 — Tarnowski S., O Rusi i Rusinach, Kraków 1981. C.w. 400 zł.

Poz. 1247 — Wasilewski L., Dzieje męczeństwa Podlasia i Chełmszczyzny, Kraków 1916. C.w. 400 zł.

Poz. 1537 — Kwartalnik Litewski, R. 1, t. 2 (czerwiec 1910). C.w. 800 zł.

Poz. 2053 — Rocznik Ziem Wschodnich, R.4 (1938). C.w. 1,8 tys. zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. У заказах, якія трэба кіраваць па адрасу: Antykwariat Naukowy, Pl. Wolności 10/11, 91-415 Łódź, неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказчык гатовы заплаціць за кнігу.

**Пётр Байко**

коў — у Наваполацку. **„Быў. Ёсць. Буду“** — гэта словы, запісаныя рукой самога аўтара, выдадцы рашылі паставіць у загаловак. Яна яшчэ зусім свежанькая, датаваная 1986 годам. На жаль, Уладзімір Караткевіч яе ўжо не пабачыў, не дачакаўся паяўлення гэтага апошняга свайго твора, хаця поўнасцю падрыхтаваў яго да выдання. Памёр 27 ліпеня 1984 года. У сяброўскім развітанні Рыгор Барадулін, між іншым, сцвярджае:

*Любая літаратура можа сказаць, што яна багатая і сталая, калі мае свайго Уладзіміра Караткевіча... Ты стварыў у літаратуры нашую гісторыю, стварыў нанова нашае мінулае...*

*...Абяцаюць нам новы*
*раскошны дом,*
*Але тут нам жыць*
*і канаць,*
*Тут пад кожным на векі*
*здабытым бугром*
*Нашы продкі забітыя спяць...*



**Заходняя Дзвіна ў раёне Наваполацка.**

Гэта верш са зборніка „Быў. Ёсць. Буду“. Напісаны ўласнаручна Уладзімірам Караткевічам і так рэпрадукаваны ў кніжцы. Слова **„тут“** аўтар сваёй рукою падкрэсліў, каб чытач ведаў, якое важнае значэнне ўскладае ён на сэнс гэтага каротказа „тут“.

Гаварылі мне ў Віцебску, што на далягляздзе беларускай літаратуры паявіўся годны перайманьнік імкненняў Уладзіміра Караткевіча. Гэта **Уладзімір Арлоў**. Гісторык па адукацыі, ён, відома, пайшоў працёртым, але не да канца зведаным шляхам гісторыі беларускага народа. Высокі, плячысты, з рыжаватай барадой. Пашчасціла мне пазнаёміцца і з ім. І здарылася гэта ў найдалейшым кутку Беларусі, на яе поўначы, там, дзе Віцебская вобласць мяжуе з дзвюма суседнімі рэспублікамі, дзе партызаны ўласнаручна насыпалі Курган Дружбы... Як дайшло да гэтай сустрэчы, дык раскажу ўжо наступным разам.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

 © PDF: Kamunikat.org 2023

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### АБРАДНАСЦЬ ЗВЯЗАНАЯ СА СМЕРЦЮ

Вераванні і легенды, звязаныя са смерцю чалавека сведчаць аб тым, што канец чалавечага жыцця выклікаў у людзей рознага тыпу адгалоскі, асацыяцыі і разважанні на тэму сэнсу жыцця, смяротнасці цела і несмяротнасці душы, форм замагільнага існавання, урэшце патопу і розных касмаганічных уяўленняў.

Якраз гэтыя і іншыя праблемы знайшлі адлюстраванне ў абраднасці і іншых фальклорных формах, выступаючых на беларусамоўнай тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны.

Успрыйманне і інтэрпрэтацыя смерці і шырокая сфера звязаных з ёю вераванняў складаюцца на спецыфічны кангламерат хрысціянскіх догмаў і поглядаў, спалучаных з першабытнымі язычаскімі поглядамі.

Вельмі цікава выглядае карціна вясковых інфарматараў, калі гаварыць аб іх уяўленнях, звязаных са смерцю. Амаль дваццаць працэнтаў абнятых апытальнікам асоб, сярод якіх галоўным чынам знаходзіліся шасцідзесяцігадовыя і старэйшыя жыхары, уважала, што чалавек у момант смерці перастае існаваць у якой-небудзь жывой форме. Асобы гэты адкідваюць увогуле думку аб магчымасці ўваскрашэння памёршага пры дапамозе вышэйшай сілы. Не вераць яны таксама ў пазамагільнае жыццё і ў так званы страшны суд. На пытанне: „Што станецца з чалавекам пасля смерці?“ гэта катэгорыя асоб адказвае: „Нічога, згніе, ды і толькі“. Сярод такой катэгорыі знайшлася і больш чым стагадовая жыхарка вёскі Падбелле, Еўдакія Нэйман. Вось фрагмент яе выказвання на гэту тэму: „Жадного загробного жытя нэма і быті нэ можэ. Жыте то на земле: як ходіш, робіш, думаеш. А якое ж жыте можэ быті там, у зэмлі, колі лежыш, забіты дошкамі, нэ ворушышся і нэ думаеш?“.

Асобы, якія адкідвалі думку аб магчымасці існавання замагільнага існавання часта гаварылі, што тут, на зямлі, жыццё чалавека з’яўляецца раем або пеклам.

Абвярганне веры ў замагільнае жыццё не заўсёды атаесамліваецца з бязвер’ем у існаванні Бога. Амаль 90 прац. асоб з гэтай групы верыць у Бога. Аднак яго дзейнасць абмяжоўвае выключна сферай людзей жывых. І толькі каля 10 прац. увогуле адкідвае ідэю Бога, як наіўную і казачную. Болей за дваццаць працэнтаў ад анкетаваных не мае акрэсленых поглядаў адносна існавання або неіснавання замагільнага жыцця. Асобы, якія належалі да гэтай групы, вельмі неахвотна выказваліся на гэту тэму. Як правіла, гаварылі мала дакладна, неакрэслена. Найчасцей чулася адказы тыпу: „А хто яго ведае, як там е“, „Няхай разумнейшыя, як я, зоймуцца гэтай справай“, „Вы лепш пайдзіце да папа, то ён вам скажа“.

Амаль усе асобы гэтай катэгорыі выразна нерваваліся, калі мы хацелі прымусіць іх да больш выразнага сфармулявання сваёй апініі. Нервовасць была выклікана перакананнем, што размовы на такія тэмы могуць ім пашкодзіць, калі б аказалася, што пануе пазамагільнае жыццё і яго характар залежыць не толькі ад чалавечых учынкаў на зямлі, але і ад яго думак і слоў. Жыхарка вёскі Бандары, Анна Міруць, такім чынам выявіла свой погляд на гэту справу: „Ты ўсе пытаеш і пытаеш, як тое, як сёе. А хто его там ведае, чы е тое жыцце на том свеці, чы его німа! Як памрэм, тады пабачым. А нашто нам аб гэтым гаварыці, раз мы нічого ні ведаем. Поп кажэ, што е, а Казберук Яначко і Каваль кажут, што німа. Можэ е, а можэ і німа. А нашто ляпаць, што німа? Калі акажацца, што е, то, нібось, на страшном судзе прыпомнят і да грахоў залічат гэтэ ляпане. І ты, Шурык, лепш зрабіў бы, каб перастаў аб гэтым гаварыці, а то толькі людзей у блуд уводзіш. Ено ведомо, што кажды часам аб гэтым падумае, але нашто ўжэ адразу аб гэтым язык распускаці?“

**А. Баршчэўскі**

## ЦІКАВІНКА

### ТУНГУСКАЯ КАТАСТРОФА: НОВАЯ ГІПОТЭЗА

Арыгінальную гіпотэзу аб прыродзе тунгускай катастрофы 30 чэрвеня 1908 года прапанаваў новасібірскі геолаг А. Расцегін. У выніку землетрасення, эпіцэнтр якога супаў з буйнымі залежамі вуглевадародаў, літасфера раскалолася на блокі, лічыць ён. Па трэшчыне накіраваўся магутны паток газаў, які ўзарваўся пры злучэнні з паветрам. Узнікшы затым вогненны смерч давяршыў разбурэнні.

Такая карціна дазваляе растлумачыць, чаму відавочцы па рознаму апісвалі форму вогненнага цела: пры выбуху яно выглядала шарам, пры смерчы — верацяном. Становіцца таксама ясным, чаму застаўся ўчастак лесу з непаваленымі дрэвамі: у цэнтры смерча ўтварылася зона нізкага ціску.

Па трасе руху вогненнага цела ёсць разлом у зямной кары, які добра відаць на касмічным здымку. Знойдзены ў раёне Падкаменнай Тунгускі і залежы вуглевадародаў, што таксама служыць ускосным падмацаваннем гіпотэзы. У якасці аднаго з доказаў магчымасці буйных выкідаў газу А. Расцегін прыводзіць катастрофу на возеры Ніос у Камеруне.

На карысць гіпотэзы гаворыць яшчэ адна асаблівасць, на якую звярнуў увагу вучоны. Па трасе пралёту вогненнага цела ён налічыў больш дзесяці буйных пажарышчаў, між тым як на суседніх тэрыторыях сляды агню не выяўлены. Некаторыя падземныя пажары працягваюцца і ў нашы дні.

### ПРЫКАЗКІ

Калі добры розум, то і галавы не трэба.

*

Конь вырвецца — дагоніш, а слова сказанага не вернеш.

*

Меней гавары — болей ведаць будзеш.

## ЗАГАДКАВАЯ ХВАРОБА

СНІД (у Польшчы называецца — АІДС) увайшоў у тэрміналогію ўрачоў зусім нядаўна і адразу ж прыцягнуў пільную ўвагу вучоных многіх краін, а барацьба з гэтай хваробай стала адным з галоўных напрамкаў для многіх галін медыцыны і біялогіі. Што ж уяўляе сабой СНІД — сіндром набытага імунадэфіцыту? Гаворачы агульнапрынятай мовай, у хворых СНІДам паражаецца імунная сістэма. А паколькі менавіта яна выконвае надзвычай важную і адказную ролю аховы арганізма ад розных вірусаў і бактэрый, якія выключаюць інфекцыйныя хваробы, злаякасныя пухліны, відавочна, што любая „няспраўнасць“ гэтай сістэмы вядзе да вельмі цяжкіх вынікаў.

Вірус СНІДа быў упершыню выдзелены ў 1983 годзе французскім вучоным Люкам Мантанье з інстытута Пастэра і сёння ўжо дастаткова вывучаны медыкамі і біёлагамі. Дзеянне яго накіравана да „выбівання“ з імуннай сістэмы аднаго з важнейшых яе звенняў — белых крывяных клетак. Знішчэнне клетак тыпу Т-хелперы, якія называюць „памочнікі“, парушае дзейнасць імуннай сістэмы і арганізм робіцца зусім безабаронным: любая, самая бяскрыўдная хвароба, якая звычайна лёгка вылечваецца, становіцца цяжкай, а то і нагул невылечнай і можа прывесці да смерці. У гэтым і заключаецца найвялікшая небяспека і каварства СНІДа.

Яркіх сімптомаў СНІД не мае і гэтым узмацняецца яго небяспека. Чалавек можа доўга быць носьбітам яго віруса, які сябе нейкі час не праяўляе. Працэс разбурэння клетак тыпу Т-хелперы можа працякаць вельмі павольна. Магчымы нават выпадкі, калі ён спыняецца сам па сабе і чалавек цалкам выздараўлівае. Але на гэта разлічваць не прыходзіцца. Часцей за ўсё вірус „дабіваецца свайго“ і дашчэнту разбурае імунную сістэму. Хворыя ў такіх выпадках катастрафічна страчваюць у вазе, у іх узнікаюць рознага роду пнеўманіі, ліхаманкі, што не паддаюцца лячэнню агульнапрызнанымі медыкаментамі, ракавыя захворванні (у прыватнасці, саркома).

На шчасце, СНІД хвароба не вельмі заразная, не перадаецца праз ежу, паветра. Яе вірус (гэта цяпер ужо добра вядома) „жыве“ ў крыві. Найбольш магчымыя шляхі яе распаўсюджання звычайна напрамую звязаны з палавой разбэшчанасцю, наркаманіяй.

СНІД — хвароба далёка не новая, існуе вельмі-вельмі даўно. Проста яе да апошняга часу не маглі распазнаць, а яе згубныя вынікі прыпісвалі іншым, ужо вядомым хваробам.

Першыя пяць выпадкаў захворвання былі выяўлены амерыканскімі медыкамі ў 1981 годзе ў Сан-Францыска. Потым колькасць іх пачала расці ў геаметрычнай прагрэсіі. У канцы мінулага года, паводле даных амерыканскай статыстыкі, носьбітаў віруса толькі ў ЗША налічвалася ўжо 1,5 мільёна, а колькасць хворых дасягнула 28 тысяч. Пры гэтым трэба падкрэсліць высокі працэнт смяротнасці сярод захварэўшых.

(З гутаркі карэспандэнта „Звязды“ з вядучым савецкім вучоным у галіне вірусалогіі прафесарам В. М. Ждановым).

## СОННІК

65

**Макарону** есці — працяглыя судовыя справы.
**Макаўнік** — выгоднае, пераборлівае жыццё.
**Макацёр,** верцеха — гулянне, вяселле.
**Маладым** быць — прыкрасць з-за нясталасці, ветранасці; маладых бачыць — здароўе.
**Малако** бачыць — здароўе; піць — ашчаднасць і ўдачы ва ўсім; насіць — учыніць што-небудзь бяздумна; гатаваць — паводзіць сябе лёгкадумна; купляць — узятыя на сябе абавязкі належна выканаць; выкіпяціць — маеш ворагаў; раздаваць — блаславёнасць у хаце.
**Малаціць** — удача ў справах, інтарэсах; стамляцца пры малацьбе — цябе чакае вельмі многа працы.
**Малачарня** — вельмі добра развіваюцца справы, інтарэсы.
**Маліны** — радасць і поўня жыцця.
**Маліцца** — супакаенне пасля трывогі і клопатаў; малебен — прыемнае жыццё.
**Малоць** збожжа — павелічэнне маёмасці; каву — госці; перац — засмучанне, клопаты.
**Малочніца** — сумны, клапатлівы занятак.
**Малочныя** стравы есці — змены ў жыцці, працы.
**Малпа** ўзлазіць на дрэва — твае ворагі стараюцца табе пашкодзіць; крычыць — ліслівасці дурняў; дражніцца з ёю — несвядома ўчыніць прыкрасць прыяцелю; бачыць танцуючую — многа радасці; забіць яе — мець упартага праціўніка.
**Малы** чалавек — шчасце; малым быць — павышэнне ў працы ці ў асяроддзі, узбагачэнне.
**Мальберт** (у мастака) — заповедзь прыгожай будучыні.
**Малявацца** — замужаства (жаніцьба); сказаць, каб цябе малявалі — будзеш шчыра закаханы (ая); маляваць іншых — новае знаёмства; краявід — дастатак.
**Мамка** — бачыць яе — цябе запросяць у кумы; быць ёю — цябе чакаюць перамены ў палажэнні і адносінах з іншымі.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У ШКОЛЕ Ў ХРАБАЛАХ



*У школе ў Храбалах добра працуе багатая вучнёўская спулдзельня, якой апякуецца настаўніца мгр Валянціна Гаўрылюк. У спулдзельні ўсё патрэбнае вучню — ад сшытка да аранжады. На перапынку кожны хоча нешта купіць.*

Вельмі прыгожа выглядаюць класы ў школе ў Храбалах (Бельскай гміны). У кожным стаіць на ўсю сцяну шафа, а ў ёй пад рукой усе патрэбныя дапаможнікі. На сцяне вялікія карты, малюнкі, чарцяжы, планшы. Вельмі многія з іх сабралі і зрабілі самі вучні пад наглядам сваіх настаўнікаў. І трэба сказаць: майстраватыя, з залатымі рукамі дзеткі ў школе ў Храбалах.

У новую школу храбалоўскія настаўнікі і вучні ўвайшлі ў 1985 годзе. І ў школе, і вакол яе шмат прасторы. Ёсць таксама магчымасці шырока разгарнуць практычныя заняткі. І такія заняткі ў школе стаяць на высокім узроўні. Пра тое і сведчаць якраз іх класныя шматлікія дапаможнікі, якія так цікава экспануюцца на чыстых полках і сценах.

У спорце школа спецыялізуецца ў шахматах і ў валейболе. Вучаніца VIII класа, выдатніца Эва Паўлючук з Гацькоў у 1986 г. заняла ў раённым спаборніцтве па шахматах для пачатковых школ 3 месца, а ў ваяводскім — 9 месца. Шахматы — сямейная гульня ў хаце Эвы. Яе дзве сястры гуляюць таксама ў шахматы. Галоўнае, аднак, што з імі гуляе іх мама — яна і была першай настаўніцай сваіх дзяўчатак. Такі моцны сямейны шахматны калектыў!

У арганізаваным нядаўна конкурсе „Бяспечны дарожны рух“ школа заняла другое месца ў гміне.

Актыўныя школьнікі ў Храбалах у беларускіх конкурсах: на песню і на дэкламацыю вершаў. У мінулым годзе ў конкур-

(Працяг на стар. 10)

# ЯК ЧОРТА АБДУРЫЎ

(Казка)

Даўным-даўно жылі ў вёсцы Рэйпічы (цяпер пішуць Райкі) дзед і баба, і было ў іх трох сыноў. Калі бацькі пастарэлі, паклікалі да сябе сыноў і кажуць ім: мы хутка памрэм і трэба нам падзяліць тое, што маем. Найбольшаму далі ката, сярэдняму — сабаку, а меншаму лыка на лапці. І старыя зараз паўміралі.

Сыны, калі скончыўся ім бацькоўскі хлеб, пайшлі ў людзі шукаць заробку. Меншы ўзяў з сабою лыка. Доўга ішоў ён, аж стапталіся лапці. Спыніўся ён каля якойсьці сажалкі пасярод балотаў і ўзяўся плясці новыя лапці. Ажно чуе нейкі плюск у вадзе і бачыць: вылазіць адтуль чорт. Вылез, паглядзеў і запытаў:

— Што ты робіш?

— Вяроўку ўю, каб ёю ўсіх чарцей вывалачы з балота і на таргу ў Бельску прадаць, а за грошы тыя хату сабе купіць, бо жыць не маю дзе. — адказаў найменшы.

— Не цягай нас з балота, — загаварыў чорт. — Я дам табе за тое, што толькі захочаш.

— Калі ты прынясеш мне золата і насыплеш яго цэлую шапку, то не буду чапаць.

Так гаворачы з чортам, меншы сын падумаў, што шапка тая дзіравая ж, парваная, дык замест яе трэба ямку ў зямлі выкапаць, няхай у яе чорт сыпле золата. Так і зрабіў ён. Выкапаў яму і накрыў яе дзіраваю шапкаю. Чорт з'явіўся з мяшком поўным золата і давай сыпаць яго ў сынаву шапку. Сыпле чорт золата, сыпле, усё высыпаў і просіць падняць шапку. Хлопец падняў шапку і чорт убачыў, што золата ў ямцы. Разззлаваўся, што хлопец ашукаў яго і пайшоў па раду да старэйшага чорта на балоце. А старэйшы чорт паслаў найдужэйшага чорта, каб падужаўся з хлопцам. Хлопец падумаў: бяда мне будзе! Аж убачыў пад ёлкаю спіць мядзведзь. Ён і кажа дужаму чорту, паказваючы на мядзведзя:

— Гэты з табою падужаецца, а калі не адолее, тады я дух з цябе выб'ю.

Чорт, не ведаючы мацаты мядзведзя, падбег да яго і давай дужацца, але калі дастаў раз і другі лапаю, патрухаў зняможаны да таго старэйшага чорта пытаць, што рабіць. Старэйшы падумаў, і паслаў да хлопца чортавага свістуна: хто каго перасвішча. І чорт гэты, прыйшоўшы да хлопца, так пачаў свістаць, што карчы хіліліся і лозы палягалі на балота. Цяпер

(Працяг на стар. 10)

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Артур Вольскі

### ЖАВАРАНАК

Як разведчык,
Ён спяшаўся першы.
І астатніх
За сабой павёў.
Бо ўжо ведаў,
Што не знойдзе лепшых,
Чым у нас,
Нябёсаў і палёў.

Трапяткі,
Маленькі,
Ледзьве бачны —
Крыльцамі
У звон блакітны біў.
Жаваранку
Быў я вельмі ўдзячны,
Што ў дарозе
Песню не згубіў.

Толькі нечакана
Адвячоркам
Наляцела
Хмарная імгла.
І, не даўшы
Загарэцца зоркам,
Снежная завея
Загула.

Жаваранак!
Дзе ты?
Не азваўся.
І не мог заснуць я
Да відна.
Можа,
Назаўсёды
Адарваўся
Язычок
Блакітнага звана?

Дзень,
Другі
Зіма таптала долы
І не адступала
Ні на крок.
А на трэці
Зноў пачуўся
Кволы
І крыху прастылы
Галасок.

Значыць — быць вясне!
І калыхацца
Песняю
Над сонечнай слатой.

Толькі як жа
Мне цяпер дазнацца —
Той гэта спявае
Ці не той?



## НОВАЯ ШКОЛА

Вядуць высока сходкі
Цябе ў зайздросны свет.
З вясковай васьмігодкі
Далёка ляжа след.

Зірні: у вокны льецца
Нябёс бацькоўскіх сінь,
І родны край, здаецца,
Гукае ўдалячынь...

Сцяпан Гаўрусёў

3 суседскага агародчыка

### НЯМА ДУРНЫХ

— На чым сёння, калега, дамоў паедзем? Тралейбусам ці аўтобусам?

— Сёння — ні на тым, ні на другім. На сваіх дваіх...

— На „Жыгулі“ задумаў грошы збіраць!

— Не, мне цяпер ніякі транспарт не патрэбен. Ні грамадскі, ні, тым больш, асабісты. Вырашыў на ўсе адлегласці толькі пеша хадзіць.

— Гэта ў наш век хуткасцей! Ты што, з глузду з'ехаў?

— А ты што, не ведаеш, што дактары раяць: хадзіць — хваробы лячыць!

— Пра гэта яны на ўсіх скрыжаваннях крычаць. А самі?

— Што — самі?

— Ідзі паглядзі ля паліклінікі, як гэтыя самыя дактары ў тралейбус ціснуцца. Цяжка — а лезуць! Клапоцяцца! Каб усе пеша хадзілі, а самім было вольненька ездзіць! Не, мяне не ашукаеш! Я заўсёды еду да апошняга прыпынку. І толькі, калі ўжо вяртаюся назад, выходжу там, дзе мне патрэбна. Няма дурных!...

**А. Салаўянчык**

### ЗДЗІВІЎ

Дрымулькін запазніўся на работу...
Ледзь калідорам крок ступіў нясмела,
Як нос у нос — аж акрапіла потам —
Сустрэў свайго загадчыка аддзела.
— Праспаў. — прызнаўся шчыра
і праўдзіва. —
Змяншае шчырасць кару, як вядома
У шэфа вочы вылезлі ад здзіву:
— Як? Хіба вы яшчэ спіце і дома?

**Алена Руцкая**

— Зноў нарада?

# НІЎКА

3 суседскага агародчыка




### ПАКЛЁП

— Мікола, кажуць, быццам твая жонка такая гаспадыня, што не ўмее нават качалкі ў руках трымаць.

— Гэта няпраўда. Бо калі я позна вяртаюся дадому, яна заўсёды сустракае мяне з качалкай, і трымае яе ого-го як умела!

### НЕ РАЗУМЕЕ

Бацька пытае настаўніка хіміі:

— Як мой сын, разумее нешта ў хіміі ці не?

— Ваш сын у хіміі ні бэ ні мэ. Нават не можа адрозніць салянай кіслаты ад воцату. — кажа настаўнік.

— Такі ён і дома. Не можа адрозніць віна ад квасу. У яго ўсё квас... — дадаў бацька.

### ПРЫЙШЛОСЯ

— Як вам не сорамна, падсудны? Мала таго, што абазвалі пацярпеўшага рознымі словамі, дык потым яшчэ і пабілі яго, — гаворыць суддзя да задрыпанца.

— Не здзіўляйцеся, пане суддзя, — адказвае задрыпанец. — Але пасля таго, як я яму ўсё сказаў, высветлілася, што ён глухі, як пень.

### КРАСАВІК



Гарэлку адносіў да гаручазмазачных матэрыялаў, бо лічыў, што яна можа і падмазваць і праз яе можна пагарэць.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У іспанскім мястэчку маладжавы, рухавы чалавек гандлюе на вуліцы „чарадзейным напіткам“, які, па яго словах, вяртае страчаную маладосць.

— Мой магічны эліксір можа стварыць цуд. Я выпіў толькі адну лыжку, і самі бачыце, як я выгляджу, хоць мне ўжо трыста год!

Адзін з прысутных звярнуўся да хлопчыка, які памагаў прадаваць эліксір:

— Скажы, малы, гэта праўда, што твайму гаспадару трыста год?

— Не ведаю, я працую ў яго ўсяго дзевяноста чатыры гады.

*

Два салдаты з'явіліся да камандзіра.

— Пане маёр, — звярнуўся першы. — Дайце адпускны білет на пятнаццаць дзён — хачу жаніцца.

— І мне, пане маёр, дайце адпускны білет — я таксама хачу жаніцца, але мне трэба дваццаць дзён, — сказаў другі.

— Чаму ж вам трэба на пяць дзён больш, чым яму?

— Справа ў тым, пане маёр, што мне яшчэ трэба знайсці і нявесту.

### ДРЫЖАЧЫЯ РУКІ

— Канчай, Сідар, піць, бяры сябе ў рукі.

— І рад бы, але ж, самі бачыце: рукі трасуцца.

3 „Весніка Задрыпоніі“

### ДЛЯ ВЫГОДЫ ПАКУПНІКОЎ

У вытворчым аб'яднанні „Гром і маланка“ распрацавалі і паставілі на канвеер новую мадэль тэлевізара. Цяпер у выпадку непаладак у працы не трэба грукаць кулакамі па апарату. Гэта робіць спецыяльна ўманціраваны малаток з дыстанцыйным кіраваннем.

### 3 ЗАПІСАК КУЛІНАРА

„Усе грыбы можна есці. Праўда, некаторыя грыбы можна есці толькі адзін раз“.

3 суседскага агародчыка

### НЕ ТАК, ЯК ЗАЎСЁДЫ

У гэты дзень усё было не так, як звычайна. У трамваі пасажыры ветліва абыходзіліся адзін з другім, вадзіцель аб'яўляла ўсе прыпынкі, маладыя ўступалі месца старым. Таксіст да капеечкі адлічыў рэшту. Начальнік пахваліў за выкананую ў тэрмін работу. Жонка прыгатавала абед. Былы аднакласнік не набіваўся ў госці, а суседка па лесвічнай пляцоўцы не лаяла за кінутую кімсьці цукерачную паперку. У пункце прыёму шклатары правільна адлічылі рэшту. Майстар з тэлевізійнага атэлье прыйшоў своечасова. Паштальён акуратна паклаў часопісы ў нашу паштовую скрынку.

Кладучыся спаць, я выпадкова зірнуў на каляндар і толькі тады ўбачыў, што заканчваецца першае красавіка.

Ну і дзянёк!

**Уладзімір Цвяткоў**

### НАТАТКІ ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

„Хворы запэўнівае, што галава ў яго баліць толькі з пахмелля. За час знаходжання ў бальніцы яна балела толькі тры разы“.




Без слоў.

# КУРЁЗЫ

### КАЗАКІ-ПАДВОДНІКІ“

Запарожскія казакі, якія дняпроўскі востраў Хорціца зрабілі сваёй непрыступнай „крэпасцю“, здаўна славіліся ваеннымі хітрыкамі. Вось адзін з іх.

Вядомы пісьменнік Жуль Верн у час работы над сваім раманам „Дваццаць тысяч лье пад вадой“ адшукаў марскі часопіс за 1820 год. У ім прыводзіліся нататкі французскага місіянера Фурньe, які калісьці пабываў у запарожцаў. Ён расказваў аб „падводных чоўнах“, якія запарожцы выкарыстоўвалі ў час сваіх набегаў.

Пасмолены човен перакульвалі, да яго бартоў для пагружэння чаплялі мяшкі з пяском або каменнямі. Паветра, што заставалася пад дном лодкі, было дастаткова, каб некалькі чалавек пад ёю прыкрыццём маглі непрыкметна падабрацца да патрэбнага пункта. Потым мяшкі адчаплялі, лодка ўсплывала, яе зноў перакульвалі... І эфект нечаканасці з'яўлення „падводнага чоўна“ над вадой дзейнічаў надзейна.

# МІЖ НАМІ

Хочаш ведаць, колькі кволая дзяўчына можа вынесці на сваіх плячах? Зазірні ў яе гардэроб.